АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ПА БЕЛАРУСКІМ БРУКУ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК—1928

## МЕНСКІ РЫТМ

Тым кажу,
каму наша песьня чужая;
праводжу мяжу,
пачынаю.

### 1

Нырай, фабрычны дым,
у дрыжачую сонную сінь,—
разьвясёлы юнацкі уздым
пачуеш ты ў песьнях машын!
Прыкры табе гэты дым?
Точыць сэрца тваё, як туман?
Нырай, фабрычны дым!
Расьцілай свой дыван...
Зьвіні, сьпеў малады!
Завод, бі ў барабан!

Дым гэты нашых фабрык
праглыне далікатныя вочы.
Страшна?

Сэрца дрыгвою рагоча?
А як чорныя, хворыя фарбы
ліжуць твар рабочых,
вам ня цікава?
Што? гэта зброд сьмяцьця?
Гудзіць, гудзіць навальніцай
аблава
за паясьніцай
жыцьця.

2

А вечар кадрыль адбівае,
пеніцца вуліцы звон.
Вечар прысеў і сьпявае
на рамах фабрычных вакон.

І гэтая песьня вам страшна?
Бі ў барабан, завод!
Дым выганяй на пашу—
на вольны прастор-небазвод.

Ёсьць такія, што ў бляску золата,—
галава, як і грудзі, наўсьцяж.
І прыкра ім, што сьпеў молата
Беларусі Савецкай—наш!

Эх, родная сталь-машына,
Беларускай рабочай зьвіні!
Песьня тваёй хвіліны
вылівае жалезныя дні.

3

Хлопцы з дзіцячага дому
купацца ішлі грамадой.
Беларускай зьвінелі, вядома!
Ня ведалі лепшай, другой.

Рабочы вышаў з хаты,
радасьць кіпіць у грудзёх.
— Зьмена, зьмена багатая,—
думка прабегла ў вачох.

Селянін на рынак ехаў,
каняку спыніў і слухае.
Вочы дрыжаць пацехай,
сэрца ўзьняло завіруху.

А хлапцы паскідалі кашулі:
сонца ліжа іх жоўтыя плечы.
Грамадаю песьню загнулі
весела, сьмела, карцеччу...

4

Не спадабалася песьня дзяўчыне,
павярнулася раптам назад.
Беларуская песьня ня згіне—
ёй зьвініць новых дзён варстат!

Ой, дзяўчына, ня знойдзеш бярлогі,
сутарэньня табе не дадуць!
Хіба ўлетку насыцяць разлогі,—
Шчэ ня вывелі ўсю лебяду.

Гуляй-жа! прытулак ня цесны:
Ці сад, ці бульвары, ці сквер.
Але й тут беларускаю песьняй—
успорыць цябе піонэр.

І пальлецца песьня звонкая
ды над вольнай над нашай старонкаю.

Мо' сэрца і б'е завірухай?
Але тут хоць ня хочаш, а слухай:

„А ў бары, бары
тры дарожанькі...“

# АБРАМ

У цёмным, сырым сутараньні
жыве адзінокі Абрам.
Ой, ня раз зьбіраў сьлёзы у жменю.
Ой, ня раз начаваў ля крам...

Да вечару, з самага рынку,
ў гарачы ліпнёвы час
бутэлькай, а хочаш і шклянкай
прадае лімонны квас.

Паклічуць купцы з „ятак“,—
на работу наймецца Абрам:
на пласе сячэ цяляты,
і ня ходзіць тады ён ля крам.

Ня крычыць у бурлівым рынку:
—„Папера—сьмерць для мух“
і чэрствага хлеба скарынку
ня ходзіць выпрашваць у „круг“.

Вясёлы ён стаў, бо ведае,—
у кішэні ўсё-ж будзе рубель.
І ўвечары толькі ён сьнедае.
праклінаючы ў думках сябе.

У полі зьвінелі калосься,
як гораду песьня падпольля...

. . . . . . . . . . . . .

— Цяжка, ой, цяжка жылося
Беларусі пад няволяй.
Польшчы рука
у Менску слаўным
панавала,
а Сьвіслач рака,
так забаўна,
злавала:
Б'е ў берагі,
уздымаючы гул,
скрыгоча:
Што, пан дарагі,
падстаўляе нагу
рабочы?
Дзяржыся!..
Сьвіслач кіпела
няволяй.
Гэй, расступіся!—
гудзела
падпольле.
Панства выла:—
ламаюць
засовы.
І Беларусь радзіла
Кастрычнік
Ліпнёвы!

На вуліцах сьцягі рдзеюць
над вокнамі ўзломаных крам...
Ня відаць Абрама, дзе ён?
Што цяпер робіць Абрам?

Яму справілі з блудам заручыны
уцякаючы ўланы-зьвяры.
І Абрам як-бы атручаны...

З ім ня хоча й жыцьцё гаварыць,—
яго хваляй сваёю глынула—
пусьціўшы з пакатай з гары...

У Абрама ў грудзёх мільганула:
дачку каб сваю адшукаць,
а дачка-ж у разгул нырнула,—
ёй сорам Абрама знаць.

Вочы ўздыме маланьнем Абрам
у бязбожную высь-небазвод:
ну і просіць:—сьвяты Аўраам,
дай дажыць сваіх год без клапот.

Маліцца, адзеўшы талесы,
не хадзіў Абрам у школу
і ламае, ламае пальцы,—
час настаў невясёлы.

А дачка—сэрца чуткае,
вочы—палаючы мак.
Ня кажуць—яна простытутка,—
па каханьню, дык гэта так...

Ой, нядобрыя йшлі пагудкі,
ў сэрцы кожнаму ёсьць цеплата.
Дзяўчыны сэрца чуткае,
але ў наўкольлі ня так.

Не зразумець ёй жыцьцё змаганьня,
не зразумець ёй бурлівы завод.
Ёй прыемна там, дзе каханьне,
дзе перысты лоскат згод.

Дзе „романс мілагучны сопрано“
запяе пра вясновыя дні.
Сэрца юнацтвам сатканае
кудлачыць каханьня агні.

Дык пашто-ж ёй знаць бацьку Абрама? --
ёй жывецца з размахам—наўсьцяж.
Ёй знаёмымі сталі брамы,
ёй знаёмы стаў грубы марш...

Але ўспомніла бацьку—вядома,
дый позна, яго не спаткаць.
І ў завулках блукае бяздомкам
сэрца... сэрца за грошы мяняць

Пра такіх, пра жыцьцё разгоннае
песьня з рабочых хат
цяпер разьліваецца звонам
на свой рабочы лад:

—„Ды ляцяць міскі ды з паліцы“,
немец ходзіць ля спадніцы.

Ой, люлі, ой, люлі,—
дзеўку замуж аддалі.
Дзеўка, немкаю як стала,
панямецку загуляла.
Ой, люлі, ой люлі,—
з Менску немцы уцяклі.
Дзеўка ные, дзеўка плача:
— Прападзі ты, доля-кляча!
Ой, люлі, ой люлі,—
паны польскія прышлі.
Зноў жыцьцё і зноў забавы,—
дзеўка мысьліць аб Варшаве.
Ой, люлі, ой люлі,—
і палякі уцяклі.
Як знаёмы сталі брамы,
дык і ўспомніла Абрама.
Ой, люлі, ой люлі,—
косьці бацькавы згнілі.
Дзеўка плача, сьлёзы роем:
— Эх, жыцьцё маё ліхое!..
Дзяўчыны—сэрца чуткае,
вочы—палаючы мак.
Кожны знае—і гэта ня чуткі,
што Абрама дачка прастытутка;
і сьмяяліся й проста так...
Толькі Менск віхравейны ірдзее,
зьмятае асколкі сьмяцьця!
Ён зьдзейсьніць заводаў ідэі
на крыгах старога жыцьця.

# УСЕВАЛАДУ МАКАРАВІЧУ ІГНАТОЎСКАМУ

* * *

Бурапеніў, буяніў па бруку
вечар—ліпнёвы гармонік.
Вецер у вокны стукаў,
зьвінелі падковамі коні.
Вуліцы гулам абліты,
пагоні ўздымалі машыны.
Афішы—плякаты—вітрыны:
даклад—лекцыя—мітынг...

* * *

Загуляла чырваньню ўзвышша,
закуваў партызан—кулямёт.
Вечар, хоць з сілы і вышаў,
а сьціскаў агнявы палёт.
Завіваўся, бегаў босы
вечар бунтар-гарманіст,
бурапеніў, ня то што проста
са стрэхамі дождж гаманіў.

* * *

Крыльлі апёк „бялы ожал“,
памкнуўся крычаць, але змоўк.
Змоўк, бо вінтоўкай стрыножыў
стары партызан—Воўк *).
Вышла з падвалу падпольле—
Беларусі Вольнай быць!
вуліцы сталі полем—
полем ліхой барацьбы.

* * *

У рыштках мінулае тае...
Новым—юнацкі гоман.
Беларусь маладая, вітаем
мужыка—комуніста—наркома.

10 лістапада 1924 г.

*) Воўк—пры паляках падпольная мянюшка Ў. М. Ігнатоўскага.

## АНАТОЛЮ ВОЛЬНАМУ

За вакном мітульга сыпучая,
вецер сьвістам у хату просіцца.
З-за лахмоцьцяў месяц змучаны
ды на п'яніцу-ночку косіцца.

А па вузкіх, брудных вуліцах
ліхтароў сьвет цалуецца з лужамі.
Вакяніцы да сьцен бліжай туляцца,—
вось мо' вецер сарваць і ня здужае...

...Эх, гульбішчам такім я прыяцель,
разам з ветрам зрываў-б вакяніцы,
бо такою гульнёю-багацьцем
успаміны ў грудзёх крынічаць...

## ЛЕПШ НЯ СУНЬСЯ...

Сонца, ты любіш купацца па стрэхах,
любіш сесьці на згніўшым крыжы.
Ведай толькі, кажу я ня сьмехам,
лепш ня суньея са мной на нажы.

Глянь само: ну, як мне не злавацца?
Абняло крыж, струхнелы, як пень...
Без сьвятла, бачыш, людзі за працай, —
горне іх бяспрытульны цень.

Мае грудзі сьціскаюцца туга,
злосьць скрыгоча цябе, каб разьбіць!
Хоць і я, як і ты, валацуга,—
а працоўным — я буду служыць.

І ты лепш сьвятла шчырай жменяй
кінь глыбей у жыцьцё, ня блудзі...
Скажа „дзякуй“ табе сутарэньне, —
разам вільгаць страхне з грудзі...

Ганарыцца ня варта бляскам;
ёсьць-жа шляхта,—пашто адбіраць?
Ты зірні толькі ў нашыя казкі,
прывітаеш плячмі гэту раць...

Дык пакінь ты лізаць фарбу стрэхаў,
кінь туліць да сябе крыжы.
Калі-ж не, дык, кажу я ня сьмехам,—
лепш ня сунься са мной на нажы!..

# ДРУКАР

І дзень і ноч дрыжыць ліхтар,
сьвінцовы пыл у вокны звоніць.
Над касай весела друкар
трымае літары ў далоні.

Кладзе ў радкі, бы мосьціць брук:
за словам слова, так артыкул
вясёлай песьняй творыць друк,
але баліць рука-матыка.

І дзень і ноч машынаў гул
цалуе горача рабочых.
Таму руку, таму нагу
прыцісьне й радасна рагоча:

— Варстат заменіць соткі рук,—
што робіш ноч, ён дасьць хвілінай...
Гэй ты, крылаты вольны друк,
цябе вітаю я, машына!

Студзень 1924 г.

## ПЕСЬНЯ ВЕСКІ Й ФАБРЫЧНЫХ СТАНКОЎ

У полі, ліпнёваю ноччу,
пастухі раскладаюць агні.
А ў горадзе песьню рабочым
на колах пяюць рамяні.
Машына песьняй госкае,
стружкі кідае наўкруг,
каб хутчэй, хутчэй у вёску
паслаць сталёвы плуг.
Заўсёды: позна, рана
крынічыць фабрычным жыцьцём.
Каб хутчэй машына-дынама
разьліла свой сьпеў над сялом.

Селянін і рабочы, дарога
працярэблена вамі адна!
Прамінулі часы убогія—
сёньня ў восені наша вясна.
Ні Пятро, ні Ільля аружжам
тваё поле ўбяруць аксамітам.
Ты ня богам, вёска, акружана,
а сваёю рукой працавітай...

Помнім, помнім прыжмураны Ленін
табе, вёска, сказаў:—дай руку!
І сёньня машынай праменьні
ў тваім сэрцы радасьць друкуюць!
Свае хаты аздобіш снапамі,
вёска, сьвята твае, твой звычай!
Сваю працу сваімі рукамі—
зьбірай, вёска, у свой Ураджай!
Ты сьвяткуеш, сьмяюцца вочы,
каласіцца вясковы сход.
Я вітаю цябе ад імя рабочых
падарункам—трактар паслаў завод!
Хай ў сто звонаў зялёны гоман
разьліваюць калосьсі палёў.
Крок за крокам ідзём у жыцьцё мы
з песьняй вёскі й фабрычных станкоў!

## БАЦЬКАВА РАДАСЬЦЬ

Гэй, шыпі, сьпявай, машына!
Весялей гудзі, кацёл.
Сёньня сьвята, сьвята сына—
залічыўся ў комсамол!

Сёньня сходка фаб'ячэйкі,
хлопцы—проста ў іх агні.
Эх, сталёвая жалейка,
маёй радасьцю зьвіні!

У віхуры, у завірусе
ды фабрычнага жыцьця.
Комсамольцам Беларусі
стала роднае дзіця.

І на фабрыцы рухомы
малады мой качагар:
выбран членам фабзавкому,—
весяліся ў домне жар!

Бацьку-ж радасьці хвіліна,
ў сэрцы шчасьця сытны стол.
Гэй, шыпі, сьпявай, машына,
Ў тваіх сьпевах—комсамол!

## ПАДПОЛЬЛЮ

У глыбі, дзе секай карэньні,
комсамольцы выкоўваюць волю.
— Прынясе, прынясе вызваленьне
комсамол Беларусі—падпольлю!

Падпольле—дзіця рабочых!
Вінтоўка—штык—наган...
Стальлю звоніць друкарня ноччу,
адбівае паўстаньня плян.

А на вуліцах панская варта—
ня нырне ў сутарэньне жыцьця!
Ёй ня ведаць, што там не на жарты
змагаецца волат-дзіця...

Эх, зможам мы паншчыну, зможам!
Сьмерць прыгорне яе ў свой прыпол;
без дарогі пашле ў падарожжа,
размахнуўшы з пляча—комсамол!

## БУДУ ПІОНЭР!

Быў дзіцём, жыцьця ня бачыў,
стала лепш,—і ён цяпер:
— Гальштук дай мне, няіначай,—
буду добры піонэр.

Падрасту і ў комсамоле
папрацую—й яшчэ як!
Палюбіў я ў нас, у школе
комсамольскі маладняк.

А як вырасту, дык сільны
ў нашу армію пайду:
Беласток, Гародню, Вільню
я да Менску прывяду.

Я дзіцё машын, заводу;
працу моцна я люблю.
Каб жылі сяляне ў згодзе,
самажнеяк нараблю.

Ёсьць-жа хлопцы, як вароны,—
то на плошчу, то на сквэр.
А мне гальштук дай чырвоны—
буду добры піонэр!

## ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

Сьмела ўперад дружным сьпевам!..
Раз! Два! Левай!

Шлем, шынэль, штык, патроны...
Дружна ўперад, полк чырвоны!

Ўзвод за ўзводам, крок за крокам,
сьмела ўперад! Фронт шырокі!

Гэй, разгонны полк чырвоны,
час прышоў! Раўнуй калёны...

Гэй-жа, левай! Левай!.. Дружна!
Хто супроць нас—хутка здужым!

Сьмела ўперад дружным сьпевам!..
Раз! Два! Левай!..

## ВЕЧАР

Слухмяным хлопчыкам прышоў
у горад
вечар...
Веча
зорак
тчэ павуціну сноў.
А ў глухой прасторнай сіні—ўзвышшы
вечар славу нашу
чырвонай ніткай вышыў.
Подых ветру вабіць радасьцю рабочай,
чырвань вуліц цешыць сьпевам барацьбы.
Сэрца, ціха-ціха, шэпча мне, прарочыць:
— хутка мы павінны у Заходняй быць!..

## НОВЫ МЕНСК

Вечны гул ня спыняе лізаць камяніцы,
вочы глытаюць рэклямы вітрын.
Гадзіньнік—спакойна на менскай званіцы
б'е глухім звонам—дванаццаць гадзін.

Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны,
блудніцай бегае сонца ля сьцен.
Скрага-жыцьцё, каб ня страціць хвіліны,
конна імкнецца шукаць сабе зьмен.

Акрываўленай хваляй Менск складкі на твары
змыў з сябе, стаў разьвясёлы юнак.
Песьняй крынічыць! Забаўна штукарыць!
Гудзіць у грудзёх яго Нёмнам вясна!

Спалоханы вецер таемна на стрэхах
за комін прысядзе, коса зірне.
Сонца сьвятла жменю кіне ў прарэху
волату Менску, а разам і... мне.

Баяцца яго, бо пад час бурапеніць;
вуліцай глянь—шмат хто носіць сіняк.
Адстанеш—заменіць сьвінцоваю зьменай!
О, Менск, ты і я—маладняк!

1923 г.

## МЯСТЭЧКА

### I

Пятніца...
Запалілі сьвечкі
ў кожнай хаце
цёмнага мястэчка.
На стале ля сьвечак
сьпечаная хала.
Ў талесах мястэчка
сівы талмуд чытала.
Сонейка пагасла...
Запалілі сьвечкі...
Пятніца...
Вечар...
Моліцца мястэчка.

II

Вечар жніўны ціха павявае,
рассыпае срэбра кроплямі расы...
Ходзіць задуменны местачковец Хаім;
месяц завіваўся ў сівыя валасы.

Моліцца на месяц, моліцца на неба,
просіць дапамогі—Борух, адэной!..
Моліцца пакорны местачковец рэбэ,
просіць неба яснае выслухаць адно.

Глянуў на старога: абадраны, голы,
талесамі роніць буйнаю сьлязу.
А калісьці Хаім езьдзіў балаголам,
іа цяпер ад нечага—гадуе ён казу

кожны вечар ходзіць з хаты ў хату
і ў кожнай хаце хэйдар, ну і „гут“...
як шчыры рэбэ горача заўзята
дзеткам убівае ў галавы талмуд.

І гандлюе, хочаш, бакалеем,
з камізэлькі, хочаш, какаіну дасьць.
Моліцца на неба... Сьлязою грудзі рве ён,
Спавіло яго няшчасьце і бяда.

І ламае рукі, і ламае пальцы,
і губляе 'сьлёзы на зялёны дол.
Родныя сыночкі адкідаюць талесы
і заместа школы йдуць у комсамол.

Іх лаялі... Пракляцьці насылалі,
праганялі з дому, голых праганялі.
Ім хоць-бы што, нібы сьцяна нямая —
замест талмуду „Арбэйтэр“ чытаюць.

Багамольны крамнік, набажны гандляр—
злосьць яго спавіла, злосьць кідала ў жар.

III

Ноч мінула ў цемені дубровы,
пагасіўшы ветрам сонныя агні.
Ноч міне ў зьнямозе, светлаю падковай
прывітае раніцу—прозалаць зарніц.

Над мястэчкам глуха, пахіліўшы вецьці,
шапацелі хвойкі, калыхалі ціш...
Талесы, як хмары, доўгія сталецьці
мутнымі вачыма чадзілі ў жыцьці.

І пад шум гішэфтаў і цяпер мястэчка
каратала буднем сонечныя дні...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, зусім нядаўна запаліла сьвечкі
новая раніца—прозалаць зарніц.

# ВОСЕНЬ

Навальніцу, віхуру—любдю я,
але восень—чыстае гора:
кажуць, поле маўчыць, не хвалюе,
толькі стогны вятроў па-над борам.
Толькі стогны і крыкі ў бясьсільлі мы,
каб прымусіць рассыпацца восень.
П'яны вечар прыкрыў зямлю крыльлямі
і па стрэхах імглу разносіць.
І віхрыцца халоднымі хвалямі
ускудлачаны вецерам злосным...
Ой, ты, вецер, чаму цябе хвалім мы?
Не таму, што ня любіш ты восень?

22-XI—24 г.

## МАШЫНІСТ

Закалыхалася сірэна ў белых сецях,
узбудзіла раніцу зімы.
На ляднянках коўзаюцца дзеці,
як калісьці коўзаліся мы.

Дзівосныя, асьнежаныя ўзоры
Увабралі вокны камяніц...
А на фабрыцы машынным звонкім хорам
кіраваў сівенькі машыніст.

Асьнежаны бязьмежныя даліны,
асьнежаны фабрычных труб квартал.
З шаснаццаці гадоў ён ля машыны,
з шаснаццаці за працай каратаў...

Павевам гордай радасьці ўрачыстасьць
рабочы клюб прыветліва спаткаў:
Гэроя працы—машыніста
насіла моладзь на руках.

## МАЯ ПЕСЬНЯ

Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу,—
вуліца ўвечары сьпіць...
  Песьня мая шмат каму муліцца,
ў сэрцы іх ветрам рыпіць.
І ня раз на мяне цкавалі,
і ня змоўклі яшчэ і цяпер!
  Мае песьні мяне ўзгадавалі,—
а грубыя, як літара—„р“.

    Выйду на вуліцу,
    туліцца гоман;
    сьвет ліхтароў рассыпае чад.
    Вечар сутуліцца,
    ў сьценах нардому
    слухае ўважна даклад.

На небасхіле, як цені, застылі
шапкі фабрычных труб.
Змоўклі машыны,—гул бязупынны,
вабіць песьнямі клюб.

Песьні вясёлыя сэрца радуюць,
песьні у сэрцы ўзьнялі карагод.
— Нас прызнаюць!
    Засьмяецца радыё.
Другой тэлеграмай:
    — Будуйце флёт!

Сьпеў грамады
гарадзкіх падросткаў
гармідар ўздымае ў спакоі начным.
Гудуць правады,
рассыпаецца Роста:
— Будуйце Авіахім!

Песьня сьціскае ціш алавяную,
песьня—новага дню маяк.
Песьня змаганьнем працоўных убраная,
песьня мяне ўзгадавала,
— Мая!

Мая песьня—
песьня фабрык!
Маё слова—
звон машын,
Мая песьня—
чырвань фарбаў,
Маё слова—
плынь душы...
Мая песьня—
веснавыя ўзоры,
гоман дня
ў рабочую пару.
Мая песьня—
Новы Горад
Маладняк
і
Беларусь!

* * *

Песьня вясёлая, родная песьня—
жыцьця маладога размах.
Песьня спавіта усьмешкай прадвесьні,
полымем рдзее ў вачах.
Песьня мая—каму яшчэ муліцца —
яны знача мне не свае.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Выйду я ўвечеры, выйду на вуліцу—
вуліца ўвечары песьні пяе.

..І тчэ забыўшыся рука,
Замест пэрсыдзкага узору,—
Цьвяток радзімы васілька.

*Максім Багдановіч.*

# ЧУЖЫНА

# НА МАГІЛУ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## I

Павевы праменьняў на скалах
прасьнелаю ласкай дрыжаць,
а ў грудзёх у маіх бушавала—
вечарынкай калючай імжа.

Мора плешча халодным звонам,
ліжа пырскамі бераг круты.
Ня зьвініць тут зялёны гоман,
не трасуцца лазой балаты.

То шэрай, то сіняю хваляй
мора твар свой прыкрые й злуе.
Б'е навалай! Асінай дрыжалі
на хвалях чаўны... Зальле!..

Зальле зьвярына, замучыць,
валам сьпяе сьмерці вальс.
Палошчаць чаўны, як анучу,
плошча сініх хваль.

II

Падплывай, параход, на бераг!
Дай гудок, і якар нырне.
А кудзеляй туман, як нерат,
сваёй вільгацьцю мучыць мяне.

Параход атуляе цемень.
Вечар, пяшчоты кінь!
Скора ўбачу жывыя карэньні,
залатыя агні-маякі.

Мае думкі хваля калыша,—
калыханку бура пяе.
Змоўкні, мора, як быццам узвышша,
акуніся ты ў думкі мае...

З тэй пары прамінулі гады...
Ну, хутчэй, ну, хутчэй, параход!
Тут памёр наш пясьняр малады
у той самы Семнаццаты год.

## III

Ой, за Ялтай, у полі,
сярод Крымскіх гор
шырокі курган—магілы.
Сонца сваволіць,
тчэ жоўты узор,
і вецер гуляе пылам.

Кіпарысы, каменьні,
цыкады, крыжы,—
шырокі курган магілы.
Навальніца калені
сагне й пабяжыць,
і зноў тут жыцьцё застыла.

Ой, неба муліць
каўнер Крымскіх гор;
сонца Ай-Петры спавіла.
Ня чую зязюлі,
не яе перабор
над вялікай, забытай магілай!

## IV

Страшыць навальніцай
з-за горных сьцен
Крым.

Чорная табліца:
„Студэнт
Максім...“

* * *

Хвілінай, толькі хвілінай
заіржала сэрца жалем.
Ой, ня ласкай віталі Максіма
праменьні далёкай чужыны.
Сьціскае яго суглінак,
ветры грудзі стапталі...
Хвілінай, толькі хвілінай
заіржала сэрца жалем.

19 жніўня 1924 г.
Ялта.

# ЗЬМЕСТ

